Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 злотыя
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 33. Вільня, Пятніца, 29-га жніўня 1924 г. Год I.

## Барацьба за школу.

Мы ўжо некалі пісалі аб тым, што новыя языковыя законы, запраўды, нічога нам не даюць, толькі *пазваляюць дабівацца* некаторых правоў, даўно і ў шмат шырэйшым абʼёме „забясьпечаных" нам міравымі трактатамі і польскай канстытуцыяй.

Як ні дзікой выдаецца *патрэба мець такое пазваленьне,* усё-ж такі яно—ведама, пры сумленным выпаўненьні новых законаў польскай адміністрацыяй — *можа і павінна быць намі выкарыстана* магчыма шырока і поўна. Мы павінны абвясьціць нашай *баявой нацыянальнай задачай: трэбаваць усюдых на Беларускай Зямлі школы ў нашай роднай беларускай мове.* І няхай ня скажуць нам тыя, хто ў сукромных міністэрскіх габінэтах укладаў гэныя новыя законы, што мы *не хацелі ці ня ўмелі* ўзяць таго, што яны нам давалі: калі і цяпер у Заходняй Беларусі ня будзе адбудавана зьнішчаная Польшчай беларуская школьная сетка, дык адказнасьць за гэта хай падзе не на нас, а *на „гаспадароў палажэньня"*!

Як слушна адзначылі ў сваім пратэсьце проці „языковых" законаў віленскія вызваленцы, у самай аснове гэтых законаў пакладзены *элемэнт барацьбы.* І мо' ні ў чым так ярка ня выявілася патрэба бароцца за свае права, штодзенна здабываць яго сабе і замацовываць, як у правядзеньні ў жыцьцё „языковых" законаў.

*Колькі здалеем заваяваць, здабыць сілай нашае сьвядомасьці і арганізаванасьці, столькі мець будзем.* Памятайма, што адкрыцьце кожнае беларускае дзяржаўнае школы—гэта наша здабыча, а не „падарунак". Памятайма, што толькі пры найвялікшым напружаньні нашых сіл мы здолеем перамагчы ўсе тыя перашкоды ў выкарыстаньні нашага права на нацыянальную школу, якія напэўна будуць рабіцца школьнай адміністрацыяй, пранікнутай ідэяй нішчэньня ўсяго беларускага.

Нішто так не разьвівае сілаў і салідарнасьці грамадзянства, як ведзеная ўсенародна барацьба. Дагэтуль мы вялі пераважна барацьбу *пасыўную*: стараліся захаваць, зьберагчы сваю нацыянальную душу, сваю родную мову і іншыя нацыянальныя адзнакі. Цяпер мы выходзім ужо з стану пасыўнасьці і ўваходзім на шлях барацьбы актыўнае, барацьбы, якая мае на мэце ня толькі самаабарону, але і *заваяваньне таго, на што дае права закон.*

Беларускі народ Заходняе Беларусі перажыў ужо адзін пэрыяд такое *заваявальнае барацьбы*: гэта—выбары ў Сойм і Сэнат, калі нам прыходзілася здабываць належнае нам і прызнанае законам права на месца ў польскіх законадаўчых установах. Барацьба гэтая была нязвычайна цяжкая, бо ў ёй нам прыходзілася бароцца ня толькі з адміністрацыйнай самаволяй, але і з усемі польскімі паступовымі элемэнтамі, якія мелі важныя атуты ў сваіх руках, ідучы да нашага сялянства з лёзунгамі, аднароднымі з лёзунгамі Беларускага Выбарнага Камітэту. І ўсё-ж такі *мы перамаглі.* Усё-ж такі мы здабылі гэтулькі мандатаў, што лічба беларускіх паслоў і сэнатараў *утрая перавысіла ўсе польскія спадзяваньні.*

Сёньня перад намі ізноў пэрыяд такое-ж барацьбы за родную школу. І калі мы выявім у гэтай барацьбе такую-ж цьвёрдасьць, салідарнасьць і арганізованасьць, як у часе выбарнае працы, дык ёсьць надзея, што нават пры самых благіх адносінах польскае адміністрацыі, прымушаной „адрабляць" сваю колькігадовую нішчучую работу, справу беларускае школы скранем урэшце з мейсца!

Хай-жа ўсе жывыя сілы вёскі, ня глядзячы на пераўжытыя зьдзекі і тэрор з боку „паноў палажэньня", выступяць на барацьбу за родную школу. Няхай памятаюць, што гэта—нашае прызнанае законам права і сьвяты абавязак перад нашым народам, перад нашымі дзяцьмі — нашай будучынай і надзеяй!

*Да працы!*

## Як трэба дамагацца беларускіх школ.

*(Інструкцыя на 1924/25 школьны год).*

Польская ўлада, змагаючыся з беларускай школай, амаль заўсёды паклікалася на адсутнасьць законаў аб гэтай школе.

9. VII. сел. г. Польскі Сойм прыняў законы, што ў некаторых выпадках беларускую мову дапускаюць як у ўрады, так і ў школу.

Праўда, гэтыя законы ў асноўным сваім сэнсе супярэчны з інтарэсамі і правамі беларускай культуры, аднак ёсьць абавязкам Беларускага Народу ў Польшчы выкарыстаць з іх для сябе патрэбнае і яшчэ раз адносна да сябе спрабаваць добрай волі польскай улады.

Падаем ніжэй інструкцыю, як трэба дамагацца адчыненьня беларускіх школаў у 1924/25 шк. годзе, а таксама й тыя артыкулы гэнага новага закону, на якія трэба апірацца ды паклікацца.

### Закон аб арганізацыі школьніцтва.

(Выпіска).

**Арт. 3.** У пачаткавых урадовых школах, якія знаходзяцца ў гмінах, дзе ёсьць 25% насяленьня беларусаў, на ўрадова сьцьверджанае жаданьне бацькоў 40 дзяцей—беларускай народнасьці, якія належаць да аднаго школьнага вокругу, забясьпечана ім будзе навука ў роднай матчынай мове.

Калі ў дадзеным школьным вокругу няма 40 дзяцей, бацькі якіх зажадалі-б навукі ў роднай мове беларускай, выкладовай мовай у школе ёсьць мова ўрадовая (польская). Калі-ж у дадзеным школьн. вокрузе побач з бацькамі, якія жадаюць для сваіх дзяцей навукі ў мове беларускай, ёсьць ня менш прынамсі як 20 дзяцей, бацькі якіх жадаюць навукі ў мове ўрадовай, выкладаньне тады вядзецца ў дзьвёх мовах з тым, што палавіна лекцыяў вызначаецца на навуку ў мове беларускай; калі-ж у дадзеным вокрузе няма 20 дзяцей, бацькі якіх жадаюць навукі ў мове ўрадовай, — **мовай выкладовай ёсьць мова беларуская.**

Істнуючыя ў адным вокрузе паасобныя школы з мовай выкладовай польскай і з мовай выкладовай беларускай будуць па магчымасьці злучаны ў адну школу супольную—дзьвёх-моўную.

**Арт. 4.** У школах пачаткавых 1, 2 і 3-клясовых, так прыватных, як і ўрадовых, з моваю выкладоваю няпольскаю, абавязкава ёсьць навучаньне мовы ўрадовае, каб запэўніць веду гэтае мовы у слове й пісьме, патрэбную для мэтаў практычных.

У школах пачаткавых 4, 5, 6 і 7-клясовых, так прыватных, як і ўрадовых, з моваю выкладоваю няпольскаю абавязкава вядзецца папольску навучаньне мовы ўрадовае, польскай гісторыі і навукі аб сучаснай Польшчы так, каб была запэўнена веда іх дзеля пераходу вучняў у школы сярэднія агульна-эдукацыйныя з мовай выкладовай польскай, або дзьвёх-моўныя.

### Разьясьненьне закону і практычныя рады.

Згодна з прыведзенымі вышэй артыкуламі закону аб мовах, як бачым, даецца права беларусам жадаць свае роднае беларускае школы, але дзеля гэтага трэба, каб бацькі 40 дзяцей напісалі прыгавор і сьцьвердзілі яго бязумоўна ў гміне (воласьці) і тады ўжо пасылалі заяву з далучаным пасьведчаным прыгаворам школьнаму інспэктару, жадаючы адчыніць школу беларускую.

Аднак, часта бывае, што ўлада, ня маючы быццам нічога прынцыпова супроць адчыненьня жаданае беларускае школы, адмаўляе, тлумачучы гэта адсутнасьцю патрэбных на адчыненьне новых школ грошы. Дык трэба, каб грамадзяне—беларусы, супроць волі і жаданьня якіх далі ўжо ім школу польскую ды штрафавалі яшчэ за тое, што яны не пасылалі туды сваіх дзяцей,—цяпер, калі закон дае ім гэтае права, жадалі ператварэньня істнуючай ужо польскай школы ў беларускую ці ў дзьвёх-моўную, у залежнасьці ад таго, пад які закон падыходзіць.

Так напрыклад: калі ў вёсцы, дзе ў сучасны мамэнт істнуець школа польская, няма зусім бацькоў, якія-бы жадалі польскае школы, або іх ёсьць менш за 20, а дзяцей бацькоў — беларусаў, якія хочуць школы свае беларускае, ёсьць ня менш, як 40,—дык гэтыя бацькі могуць жадаць, каб істнуючая польская школа была ператворана ў школу беларускую, і ўрад **павінен** паводле закону гэта зрабіць. Калі-б, не зважаючы на гэта, школьная ўлада не захацела здаволіць законнае жаданьне гэтых бацькоў, то ўсё-ж тады ўлада ня будзе мець ўжо права штрафаваць бацькоў за непасыланьне дзяцей у школу польскую.

Калі ў дадзенай вёсцы (ці то ў школьным вокрузе), г. зн. ў некалькіх вёсках, істнуець школа польская і знойдзецца 40 дзяцей, бацькі якіх хацелі-б вучыць сваіх дзяцей пабеларуску, а адначасна ёсьць 20 дзяцей, бацькі якіх жадаюць вучыць сваіх дзяцей папольску, дык можна жадаць, каб істнуючая польская школа была ператворана ў школу дзьвёх-моўную, гэта значыць, каб у ёй вучылі і пабеларуску. Такое жаданьне таксама згодна з законам і павінна быць здаволена. У прыпадку-ж нездаваленьня немагчыма ўжо будзе штрафаваць бацькоў за тое, што дзеці іх ня будуць хадзіць у школу польскую.

Дзеля адчыненьня новае беларускае школы (там, дзе ніякае школы няма) трэба, апрача заявы з пасьведчаным у гміне прыгаворам, пераслаць школьнаму інспэктару.

1) Заяву гміны (воласьці), што яна прыймае на сябе абавязак утрымліваць (аплачваць) стаража, даць патрэбны апал і забясьпечыць школу неабходнымі школьнымі прыладамі (лаўкі, сталы, дошкі).

Калі-ж бы гміна гэтага дзеля якое-бы ні было прычыны не зрабіла, дык тады гэтыя кошты павінны ўзяць на сябе бацькі дзяцей, аб чым і сьпісаць прыгавор, пасьведчаны ў гміне.

2) Знайсьці адпаведны будынак на школу і, калі ён ня будзе грамадзкі, заплаціць за яго арэнду.

3) Прадставіць навуковы плян і сьпіс школьных падручнікаў.

**увага I.** Праграмы беларускай школы павінны адпавядаць праграмам урадовых пачаткавых (powszechnych) польскіх школ з дапаўненьнем іх:

1) Беларускай мовай.

2) Курс гісторыі мусіць быць дапоўнены аддзелам з гісторыі Беларусі і.

3) Курс геаграфіі мусіць быць дапоўнены аддзелам геаграфіі Беларусі.

**Увага II.** Навуковы плян і сьпіс падручнікаў з беларускіх прадметаў падаем ніжэй. Апрача гэтага можна іх разам з праграмамі беларускіх прадметаў атрымаць у Беларускай Цэнтральнай Школьнай Радзе ў Вільні.

4) Прадставіць сьпіс 40 вучняў (дзяцей тых бацькоў, якія падпішуць прыгавор аб жаданьні беларускае школы) з паказаньнем іх веку.

5) Прадставіць кандыдата на вучыцеля і кіраўніка школы.

**Увага:** Калі на мейсцы няма вучыцеля, які-б

# ХРОНІКА.

**Віцэ-міністар „для спраў крэсаў“.** У найбліжэйшым часе Дэлегат Ураду на Віленшчыну, р. Роман, назначаецца на новае становішча — другога віцэ-міністра ўнутр. спраў — „для крэсавых спраў“.

**Новы Дэлегат Ураду ў Віленшчыне.** На месца п. Романа Дэлегатам Ураду на Віленшчыну назначаецца наваградзкі ваявода п. Рачкевіч, якога ў Наваградчыне заменіць генарал Жэгота-Янушайтіс.

**Новая забарона.** На зьезьдзе беларускіх вучыцялёў сярэдніх школ Заходняе Беларусі, які адбыўся ў Вільні ў 1923 годзе, выклікала агульнае абурэньне забарона школьнаю ўладаю ў Наваградчыне выкладаць у беларускіх гімназіях геаграфію Беларусі.

З лёгкае рукі наваградзкіх „культуртрэгераў“ міністэрства асьветы выдала дэкрэт, які забараніў карыстацца ў беларускіх школах адзіным пакуль-што учэбнікам геаграфіі Беларусі А. Смоліча. Цяпер мы даведываемся аб далейшых кроках „асьветнае“ ўлады ў гэтым кірунку.

Вось-жа Віленскі Куратар, п. Гонсёровскі, які ўжо ўславіўся пазбаўленьнем Віленскае Беларускае Гімназіі правоў і этатаў, а такжа разгонам Літоўскае Гімназіі ў Сьвянцянах, *забараніў* у сёлетнім школьным годзе *выкладаць у тэй-жа Віленскай Беларускай Гімназіі гісторыю Беларусі і геаграфію Беларусі, як асобныя прадметы.*

Цікава, што дагэтуль абодва гэтыя прадметы свабодна выкладаліся ў гімназіі, і той-жа п. Гонсёровскі *зацьвярджаў іх* у расkладзе лекцыяў.

Як бачым, *„свабода навучаньня“ для беларусаў пасьля новых законаў аб правох беларускае „меншасьці“ далей абрэзываецца....*

**У Віленскай Беларускай Гімназіі.** З 25-га жніўня пачаліся экзамены (папраўкі) для вучняў (-цаў) гімназіі, якія атрымалі вясною пры пераходзе ў паступныя вышэйшыя клясы нездавальняючыя ацэны.

Уступныя экзамены для новых вучняў (-цаў) адбудуцца паміж 1 і 4 верасьня.

29-га жніўня аб 11 гадз. р. адбудзецца colloquium для тых вучняў (-цаў), якія пераводзяцца ў Віл. Беларускую Гімназію з іншых (прыватных і урадовых) школ (не беларускіх).

Лекцыі распачнуцца 1-га верасьня а 9 гадзіне зраньня.

**Арышт шпіёнскай шайкі ў Вільні.** „Kur. Por.“ піша, што ў Вільні 24 жн. арыштаваны паліцыяй 2 сябры шайкі, якая займалася шпіёнствам на карысьць Радавай Расеі. Газэта неяк глуха піша, што „арыштаваньне зроблена ў мамэнт, калі два жыды прабавалі падкупіць урадоўца палітычнай паліцыі, каб той выдаў ім фальшывыя заграничныя пашпарты“...

**Фальшывыя 50-грашоўкі.** Паявіліся фальшывыя 50-грашоўкі з волава, мяккія і шмат цяжэйшыя за праўдзівыя з ніккелю.

**Бронзавыя 2-грашоўкі.** У абароце зьявіліся новыя бронзавыя грошы — 2-грашоўкі.

## Весткі з вёскі.

### Асадніцкі „рамонт“.

Апошняя навіна астатняе хвілі: напад асаднікаў маёнтку Празарокі на дом Сруля Гітальзона.

Моʻ ў начы? Не, хавай Божа: сярод дня, 15-га ліпня 1924 году, а было, як кажуць, гэтак.

Мястэчка Празарокі амаль ня ўсё збудавана на зямлі маёнтку Празарокі. Калі быў распарцаляваны маёнтак, асаднікі хацелі забраць і мястэчка, але ўлада ўсё-ж такі не дала ім гэтага. Толькі дзялянка асадніка Камінскага неяк улезла ў самае мястэчка (гэта ўжо дзела сьвятое памяці каморніка Карбоўскага і мора лікеру, выпітага з ім асаднікамі!), і дом С. Гітальзона ўлада разам з дзялянкай прызнала за асаднікам. Пачалася цяганіна. Гітальзон, пражыўшы ў доме гадоў дваццаць, маючы да тузіна дзяцей, пачаў бароцца з бясправем. Пайшла справа ў суд. Суд выдаў пастанову на карысьць Гітальзона. Тады Камінскі надумаў другое: сабраўшы ў „растаране“ пана Гурнага асаднікаў, зрабіў ім добрую „каляцыю“ і рашылі зрабіць „рамонт“ дому Гітальзона. Які гэта быў „рамонт“—пабачылі Празарачане ў аўторак 15-га ліпня.

Рана ў гадз. 9-й мястэчка Празарокі было спалохана крыкамі: „ратуйце, бандыты напалі“. Калі ўсе жыхары зьбегліся да дому Гітальзона, дык убачылі, што на стрэхах дому і хлеву сядзелі асаднікі: Камінскі, Стапніцкі, Хабасінскі, Травінскі, Мацка-бацька, Валкоўскі-брат, Хведаровіч, Казак і Бэрглоўскі, якія рабілі „рамонт“—дзерлі салому са страх і кідалі на зямлю. Падняўся гвалт, крык. „Miernym krokiem“ прыйшлі са два паліцыянты, яшчэ павальней прыйшоў камандант Мандроўскі і (хаця, ці нехаця) змусілі асаднікаў кінуць самавольства. Паліцыя пайшла да дому. Але праз хвіліну асаднікі ізноў прыняліся за „рамонт“. Зноў узьняўся гвалт, крык. Зноў паліцыя, якой асаднікі і ня думалі слухаць, а натʻ пагражалі даць і паліцыянтам...

Толькі энэргічны пратэст жыхараў і абурэньне іх змусілі паліцыю прымусіць напасьнікаў пакінуць іх агідную працу—тады, калі ўжо была зьнішчана страха на хлеве і палова страхі на доме.

Гэтакі „рамонт“ зрабілі нашыя „культуртрэгеры“ сярод дня, на зьздзіўленьне ўсяму сьвету. Калі-б гэтакую „талаку“ зрабілі „звычайныя“ жыхары, ды яшчэ пагражалі паліцыі, дык у той-жа дзень сядзелі-б у вастрозе і паспрабавалі-б усіх „прыемнасьцяў“. Але гэта зрабілі грамадзяне I гатунку, а гэтакім усё можна.

На жыхараў Празарок напаў такі страх, што прыехаўшыя ў госьці жыхары Глыбокага і Дзісны—ў той-жа дзень уцяклі з Празарок, а жыхары мястэчка цяпер жывуць пад страхам, што—ня сяньня, дык заўтра, кожнаму могуць зрабіць такі „рамонт“ дому, або кватэры, або і жыцьця. Добрая „kolacyjka“ ў пана Гурнага, і справа гатова.

Ці ня было толькі спрабаваньня „рамонту“ са два тыдні назад у засьценку Марусіна ($1^1/_2$ вярсты ад Празарок), гдзе ў начы „зрэмантавалі“ праз страху пуд саланіны і гэтулькі-ж кілбас? „Рэмантоўшчыкаў“, па сьлядох, там было чатырох.

**Яська Крапіва.**

### Прапажа даляраў.

(*З Панкратаў, Вялейск. пав.*).

Ад вядомага Рэдакцыі паважанага і верыгоднага грамадзяніна мы атрымалі гэткае паведамленьне:

„Мне жаляцца з Панкрат, Вялейскага пав., мае родныя Т—ія, што ім перастала чамусьці пісаць і памагаць грашмі іх дачка, мая пляменьніца, якая ў Вінніпэгу, у Канадзе. Незабавам атрымаў я ліст і ад пляменьніцы з Канады, у якім яна мне піша, што, жадаючы памагчы бацькам аплаціць вялікія падаткі, выслала ім ў двох лістах агулам 27 даляраў (а сама атрымоўвае толькі 40!), г. зн. усе свае зьберажэньні за доўгі час, і, як відаць, гэтыя грошы прапалі, бо яна з Панкрат атрымала ліст з жальбой, што ад яе з пачатку Новага году няма ніякіх вестак. Відаць, тая паштовая ўстанова, праз якую праходзяць лісты з Амэрыкі, відаць, „зацікавілася“ гэтымі лістамі з далярамі (заграніцай такімі лістамі так ня „цікавяцца“!) і аставіла іх сабе... „напамяць“.

„Калі Польшча хоча праводзіць як найлепей „санацыю“ сваіх фінансаў,—то на такія факты, калі „на Крэсах“ так матарʻяльна церпяць бедныя плацельшчыкі падаткаў, — яна павінна зьвярнуць на гэта як найбольш увагі і віноўных срога пакараць, бо такія выпадкі, як вышэй апісаны, не адзіны.

„Я помню, ў Літве ў 1923 г. былі такія факты крадзежы з амэрыканскіх лістоў грошы, і там адразу знайшлі спосаб барацьбы з гэтым: ўсе лісты з Амэрыкі начальнік належнага аддзелу прагледзіў сам і парабіў свае адзнакі на тых, дзе былі даляры, тады толькі даў для рэгістрацыі, пасьля якое ўзноў прагледзіў. Такім чынам былі адразу выкрыты зладзеі-ўрадоўцы і адданы пад суд. У Коўне начальнік пэрлюстрацыйнага аддзелу аказаўся на вышыні ўзложаных на яго абавязкаў! А ці знойдуцца „на Крэсах“ такія начальнікі?—Жыцьцё пакажа.

Другія газэты прашу перадрукаваць!“

**Даўгінавец.**

Збраслаў у Прагі, 13/VIII 24.

## Беларусы у Амэрыцы.

У м. ліпню з места Чыкаго выехаў вядомы беларускі дзеяч Антон Змагар да Штату Мішыган дзеля інфармацыі амэрыканскіх беларусаў аб сучасным палажэньні. У м. Грэнд Рапідс ім былі прачытаны 3 лекцыі аб беларускім адраджэньні, а пасьля зноў 2 лекцыі для беларускіх фармэраў (гаспадароў) на фарме каля Бэлдынг, Міш. З гэтуль гр. А. Змагар выехаў да м. Дэтройт, дзе ў суботу, 2 жніўня, прачытае лекцыю на тэму „Сучаснае палажэньне Беларускага Народу“.

Беларускі рух што-раз болей шырыцца ў Амэрыцы, дзякуючы інтэнсыўнай працы беларускай інтэлігенцыі, як мяйсцовай, так і прыехаўшай з Бацькаўшчыны. Мяйсцовая прэса: расейская, польская, украінская, а апошнімі часамі і амэрыканская „Трыбюн“ удзяляюць многа мейсца беларускаму пытаньню. Нядаўна ў расейскай чыкагскай газэце „Русский Вестник“ была поўнасьцю зьмешчана прамова пасла Б. Тарашкевіча, якая на амэрыканскую калёнію зрабіла вялікае ўражэньне. Газэту бралі нарасхват.

Ворагі беларускага народу робяць тут розныя перашкоды, беларускаму руху, а часам даходзяць да прост агідных даносаў на беларускіх дзеячоў аж да Вашынгтону, каб там праз экспортацыю назад у Эўропу гэтым спыніць вялікую справу, над якой працуюць лепшыя сыны нашага народу на вольнай вашынгтонскай зямлі. Аднак-жа вышэйшая ўлада не паслухала іх і, пасьля дэталічнага разгляду справы, дала поўную свабоду дзеля нацыянальнай працы сярод беларусаў у розных штатах.

Адно сумнае зьявішча, што цяпер перад новымі прэзыдэнцкімі выбарамі адчуваецца вялікае безрабоцьце і дзеля гэтага цяжка цяпер матарʻяльна памагаць роднаму краю.

Але, каб помач была больш рэальнай, робяцца стараньні над усьведамленьнем у нацыянальным напрамку шырокіх сялянска-работніцкіх масаў, параскіданых у вялізарным Краю. Людзі, якія ўжо станулі пад сьцяг адраджэньня і вызваленьня Беларусі, — верaць, што, па прыкладу ірляндцаў, палякоў, чэхаў, і нашае грамадзянства споўніць свой грамадзкі абавязак перад многапакутнай Бацькаўшчынай.

Хочацца верыць, што ў нацыянальнай сьвядомасьці, дружнай арганізаванасьці і шырокай ахвярнасьці — здабудзем зямлю, волю і вольную Беларусь!

**Янка Навадворскі.**

Дэтройт, 31 ліпня 1924 г.

## Да усяго беларускага вучыцельства.

Беларуская Школьная Рада ў Вільні, маючы на мэце арганізацыю беларускіх пачатковых школ на аснове новага закону аб ужывальнасьці няпольскіх моваў у школе, прынятага Польскім Соймам 9./VII. сёлетняга году, а які ўвойдзе ў жыцьцё 1./X. 1924 году, а таксама жадаючы наладзіць беларускія вучыцельскія курсы, аб чым робяцца захады перад уладай,—гэтым зварочваецца да ўсіх настаўнікаў—беларусаў, як працуючых у школах, так і безработных, каб далі аб сабе весткі, запоўніўшы ніжэйпаданую анкету:

1. Імя і прозьвішча.
2. Век, або калі радзіўся.
3. Што скончыў.
4. Стаж (колькі гадоў вучыў і ў якой школе).
5. Ці скончыў беларускія курсы.
6. Як прыгатаваны з полёністыкі.
7. Чым цяпер займаецца.
8. Ці мае польскае абыватэльства.
9. Адрас.

Запоўніўшы гэтую анкету паводле вышэйпададзенага ўзору, Белуская Цантральная Школьная Рада ў Вільні просіць безадкладна прыслаць яе па адрасу:

Wilno, ul Wileńska 12—6.
Białoruska Centralna Rada Szkolna.

*Беларус. Цантр. Школ. Рада ў Вільні.*

## Сельска-гаспадарскія парады.

### Як квасіць на зіму капусту.

Найлепшы смак маець капуста дробна сечаная, а не шынкаваная. Перад тым, як сеч капусту, дно кадзі, у якую будзець ссыпацца сячоная капуста, высьцілаецца верхнім зялёным лісьцём ад качаноў. На гэтае лісьцё кладуць чорнага добра выпечанага і пры гэтым смашнога хлеба; хлеб кладзецца невялікімі кускамі; усяго хлеба кладзецца фунты два. Гэта закваска з хлеба і ёсьць галоўнай прычынай смаку і трываласьці капусты. Сеч капусту трэба досыць дробна дзеля таго, што дробна сечаная капуста лепей зьбіваецца ды і меней трэба будзе пасуды. Усыпаўшы пасечанай капусты ў кадзь, трэба добра яе ўтаўчы. Утаптываць трэба добра і доўга пасьля кожнай усыпкі ў кадзь 2-3 вёдзер сечанай капусты. Добра ўтаптаная капуста не плясьнеець. Калі капуста будзе ўся ўсыпана ў кадзь (трэба старацца, каб кадзь была поўна), тады паверх капусты ў кадзі накрываецца цэлым шэрым капусным лісьцём, а на лісьцё накладаецца дзераўлянае днішча (зроблены з дасок круг) і з верху гэта днішча прыціскаецца камянём вагой каля пуда.

Для лепшага смаку дабаўляюць у капусту солі і цыбулі.

Асобна накрышанай цыбулі дабаўляюць у капусту па 5-6 невялікіх галовак на кожнае вядро капусты. Цыбуля ў кадзі добра перамешаваецца з капустай.

Ліць ваду на капусту ў кадзь зусім нятрэба. Цераз 3-5 дней капуста сама дасьць столькі соку, што ён будзе выліваецца з кадзі. Гэты першы сок гаркаваты, а дзеля гэтага трэба старацца, каб ён увесь сыйшоў. Як толькі знайдзецца на капусьце сок, трэба ўзяць гладкую палку таўшчынёй з палец ці крыху таўсьцей і ёй прабіць у капусьце дзірку аж да дна; па гэтай дзірцы сок будзе падымацца зьнізу ўверх і тады яго зьліваць.

У кадзь у капусту можна класьці і цэлыя качаны капусты, разрэзаўшы іх папалам. Каб качаны былі смашнейшыя, робяць гэтак. На-нач перад тым, як сеч капусту, выбіраюцца лепшыя тужэйшыя качаны і кладуць іх у печ на разасланую салому, каб не падгарэлі. Назаўтра качаны вынімаюцца з печы, разразаюцца папалам і кладуцца ў кадзь разрэзаным бокам у ніз і засыпаюцца сечанай капустай. Малыя качаны можна класьці цалымі. Зьвягшыя качаны ў печы, як паляжаць у капусьце, робяцца йзноў сочнымі і яшчэ крапчэйшымі.

Зробленая гэткім спосабам капуста можаць стаяць сьмела цэлы год і не папсуецца.

**Я. П.**